Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ НІВА

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12 — 6. (Wilenska 12. m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзен. Адміністр. ад 9 да 3

Падпіска на адзін месяц з дастаукай да хаты 2 зл. Для заграніцы удвая даражэй.

**Перамена адрэса 30 грошы.**

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за радок пэтыту ў 1 шп.

№. 1 (14). Вільня, Серада, 6-га студзеня 1926 г. Год II.

## Вывады.

Прыняцьце Соймам у аканчальнай рэдакцыі закону „аб парцэляцыі і асадніцтве“ дае магчымасьць разабрацца, як сьлед, у пастаноўцы ў Польшчы зямельнага пытаньня нагул і ў адносінах да беларускае вёскі асабліва.

Пакладзены ў аснову польскае „зямельнае рэформы“ прынцып *выкупу* зямельных абшараў—пры пасрэдніцтве дзяржавы — тымі сялянамі, што маняцца на іх гаспадарыць, ясна паказуе, для каго празначаецца гэная зямля. Бо-ж ясна, што яе могуць купіць толькі тыя, у каго ёсьць *за што купляць*. Карацей кажучы: зямлю здолеюць атрымаць толькі *заможныя сяляне*, якім хопе грошы, ня толькі на пабудаваньне і інвэнтар, але і на плату за зямлю.

Гэта—агульнае правіла. Яно зьяўляецца точным паўтарэньнем ідэі Сталыпіна аб „крепкихъ мужичкахъ“, якія—паводле думкі гэтага вядомага слугі маскоўскае рэакцыі — мелі служыць пэўнай апорай для „яго вялічаства“ і бараніць вёску ад небясьпечных для паноў-абшарнікаў імкненьняў вясковае беднаты.

„Крепкихъ мужичковъ“ мае вытварыць у Польшчы „зямельная рэформа“, праведзеная дружна панамі пэпээсамі і эндэкамі ў паразуменьні з партыяй вясковых „кулакоў“. Ім будзе дапамога ад дзяржавы, ім будзе ўсё,—пад той час, як *для беднаты новы закон не дае нічога.*

Гэта—*для ўсяе Польшчы.* Для сялянства-ж Заходняе Беларусі закон не дае і гэтага: нават нашы вясковыя *багатыры*, раз яны беларусы, ня могуць мець надзеі на атрыманьне дзялянак з парцэляваных у іх пад носам панскіх двароў! Аб гэтым ужо пастараліся засядаючыя ў Сэнаце прадстаўнікі абшарнікаў: пастанову Сойму аб тым, што парцэляваць дворныя землі павінны між сялянамі *бліжэйшых вёсак*, Сэнат *адкінуў*, і Сойм на адным з сваіх апошніх паседжаньняў *згадзіўся ў гэтым з Сэнатам*.... Аб „бліжэйшых вёсках“ прыняты закон не ўспамінае,—значыцца, пры парцэляцыі зямлі дапускаецца насыланьне да нас выключна польскіх сялян з этнаграфічнае Польшчы.

Польскія нацыяналісты заўсёды высказвалі пагляд, што тая зямля на Беларусі, якой—разам з жыўшымі на ёй сялянамі — князі і каралі абдорылі прад вякамі сваіх верных служак—дзядоў „нашых“ абшарнікаў,—гэта ёсьць зямля „польская“ і можа быць аддадзена толькі польскім-жа сялянам. Цяпер гэты пагляд перамог і ў Сэнаце, і ў Сойме. А разам з гэтым беларускае сялянства аказалася засуджаным на *вечнае малазямельле* — бяз ніякае надзеі на пашырэньне свайго маламернага варштату працы—сваіх вузенькіх загончыкаў....

Гэтак чыста *эканамічная* рэформа ператварылася ў *палітычнае* мерапрыемства, скіраванае проці сялянства беларускае нацыянальнасьці (так сама, як і ўкраінскае!),— мерапрыемства, якое мае на мэце *зьмяніць грунтоўна нацыянальны склад насяленьня „крэсаў“*.

Але аўтары закону аб „парцэляцыі і асадніцтве“, здаецца, лішне ўжо перахітрылі. Як ведама, знамяніты выбарны закон, што меў забясьпечыць на „крэсах“ дэпутацкія мандаты паляком, ашукаў у 1922 годзе ўсе спадзяваньні ягоных аўтараў.—Так, здаецца нам, ашукае жываедзкія імкненьні соймавае большасьці і знамянітая „зямельная рэформа“. Ашукае—бо польскі зямельны закон ясна паказуе беларускаму і ўкраінскаму сялянству, што яно здолее здабыць ад вякоў паліваную ягоным потам і крывёй зямлю у сваім родным краю *толькі тады, калі здабудзе сабе нацыянальную волю і палітычную ўладу на сваёй зямлі.* І гэтак ад сяньняшняга дня *змаганьне нашага сялянства за зямлю неразрыўна зьвязалася з яго змаганьнем за сваю нацыянальнасьць і волю*, гэтак ідэя нацыянальнага і палітычнага вызваленьня атрымала гранітны фундамант у сьвядомасьці нашае вясковае беднаты, што *без такога вызваленьня зямлі яна ня ўбачыць.*

А такое сьвядомасьці не зламае ніякая сіла!

## У чым нашая сіла?

Перада мной ляжыць адзін з „вѣрноподданическихъ“ журналаў за 1908 год. У зьмесьце яго напаткаў адну стацьцю, якую гожа нам троху закрануць і тое-гэнае ўцяміць, асабліва ў цяперашнім нашым палажэньні.

У артыкуле—„Къ школьному вопросу въ бѣлорусском краѣ“—невядомы аўтар піша:

У гэты час даецца заўважыць новае, пакуль што ня моцнае цячэньне—зрабіць беларускую мову ў школе пануючай. Ведама, бараніць родную мову вельмі патрэбна, бо мова—гэта сама самабытнасьць і нацыянальная індывідуальнасьць. Мова — гэта сам народ. Мова—гэта скарбніца багацьця розуму і веды народнае. З утратай мовы народ губляе свой капітал розуму, а ў сутнасьці губляе сваю індывідуальнасьць“.

Пераходзячы да палітычнае тэмы аўтар яшчэ праўдзівей кажа:

„Калі далучаны народ захавае сваю мову, як мэту адукацыі, дык злучэньне яго з другім народам не магчыма. Дзьве адукацыйныя мовы ў грамадзкім саюзе — гэта ўжо дзьве нацыянальныя адзінкі; адносіны між імі ня ёсьць адносіны двух членаў грамадзкага саюзу, а адносіны міжнародавыя, як дзьвюх самастойных нацыянальных адзінак“.

Шмат яшчэ над чым плача аўтар і шмат чаго наваражыў, — што зьдзейсьнілася ў 1917 годзе, калі вялізарная Расейская Імпэрыя, нахапаўшая ўсялякіх нацыяў, але ня здолеўшая забіць іх мовы і культуры, разьляцелася на кавалкі. Нам, беларусам, трэба добра ўцяміць лекцыю невядомага аўтара.

Усім памятна, як царскі ўрад у апошнія гады перад вайной пачаў адкрываць на нашай Бацькаўшчыне свае школы, забараняючы ў тым часе школы беларускія. Бо царскі ўрад добра ведаў, што, калі даць „інародцам“, у тым ліку і беларусам, школу ў роднай мове, даць магчымасьць нам узгадоўваць нашую моладзь у пашане да сваей мовы і культуры, — дык гэтыя „інародцы“ хутка апынуліся-бы ў адносінах міжнародавых. За гэтае над нашай мовай гэтак і сьмяяліся, называючы яе мовай „хамской“, „мужыцкой“, а ўжо найдалікатней—„простай“.

Зьмяніліся часы, зьмянілася амаль ня ўсё на сьвеце, а ліхое фатум усё вісіць над нашай Бацькаўшчынай.

Разьдзялілі нас на дзьве палавіны. Маем новых валадароў і бачым, што валадары Заходняе Беларусі ідуць шляхам даўнейшых самадзержцаў.

Праўда: маем трактаты, канстытуцыі, законы, уставы і г. д. І ўсе яны гэтак салодка напісаны, што нам толькі маліцца на нашых валадароў.

Але — адно на паперы, а другое ў жыцьці. За апошнія пяць гадоў у Зах. Беларусі зачынены сотні пачаткавых беларускіх школ, зачынены вучыцельскія сэмінарыі. На іх месца адчынены тысячы польскіх школаў, у якія панасыланы вучыцялі з Галіцыі, Пазнані. Дзесяткі тысячаў дэкляарацыяў на родную школу—пайшлі пэўна ў печ, бо ня бачым ня толькі, каб адчынілася дзе нашая школа, а на‘т і двуязычная. На прыватныя школы не даюць дазволу, а калі дзе такая адкрыецца—зараз жа разжануць.

Страх перад выхаваньнем нашае моладзі ў нашай роднай мове ў нашых валадыроў такі-ж самы, як і ў былых царскіх самадзяржаўных валадыроў.

Але часы ўжо ня тыя, ды і людзі памацнелі духам.

Дык сяляне беларусы: памятайце, у чым нашая сіла. Яна ў нашай мове, як вучыць нас расеец.

Ня стыдайцеся-ж сваей мовы, вучыце ў ёй сваю моладзь, каб яна ведала сваю культуру, сваю кніжку, сваю газэту, а праз гэтае і свае правы на чалавечае істнаваньне. Голасна крычыце —што наша мова гэта мова ня „простая”, а мова народная, якая мела сваю дзяржаўнасьць, на якой пісаліся законы, гаварылі князі, духавенства і тагдашняя арыстакратыя.

Гэтая мова мае ўжо багатую, прызнаную культурным сьветам, літэратуру.

Гэтая мова—мова колькімільённага беларускага народу, і да гэтай мовы прыслухаюцца і другія народы.

Вучыце дзетак у роднай мове і дамагайцеся сваіх школ!

**Зязюля.**

## Сьвяточныя паседжаньні Сойму.

### Паседжаньне 28 сьнежня.

Разьяжджаючыся на сьвяты, Сойм пастанавіў сабрацца яшчэ перад канцом году — для вырашэньня найпільнейшых справаў...

З гэтых нейпільнейшых справаў найважнейшая—аканчальнае прыняцьце закону аб „зямельнай рэформе“.

### Асадніцкая зямельная рэформа—прынята.

Першае паседжаньне 28 сьнежня і было ахвяравана амаль не цалком галасаваньню над абгаворанымі ў камісіі папраўкамі Сэнату да гэтай „рэформы“.

Гэтыя аканчальныя галасаваньні запраўды аканчальна паказалі, што значыць для сялянства ў Польшчы, а перад усім — для няпольскага сялянства—створаная, дзякуючы „розуму і адказнасьці пэпээсаў“, урадавая коаліцыя. Выразна і востра проці-сялянскі характар гэтага ўраду, якім кіруе ўрадавая большасьць Сойму, пасьля гэтых галасаваньняў не падлягае найменшаму сумліву...

Перад усім трэба адзначыць добра прадбачаную беларускай прэсай яшчэ пры першых галасаванях—здраду „вызваленцамі“ сялянскай, перад усім—беларуска-сялянскай справы. Гэтая здрада тым больш агідна, што якраз залішне даверчывае беларускае сялянства аддало найбольш галасоў гэтай крывадушнай, ашуканскай партыі.

### Здрада вызваленцаў.

Пасьля прамовы п. Баліна, які дамагаўся зьняцьця законапраекту зусім з парадку дня, як „найзвычайнейшага нягоднага ашуканства сялянства, якое ніколі ня згодзіцца на гэтую „рэформу“, але наадварот—знойдзе іншыя шляхі барацьбы за зямлю“,—выступіў зараз-жа пасол—вызваленец Санойца.

Санойца пачаў вельмі востра:—„Партыя Вызваленьне лічыць, што ўрад не зьмяніў адносінаў да закону аб зямельнай рэформе... Урад лічыць магчымым плаціць з беднага бюджэту краю адшкадаваньні абшарнікам за адбіраную зямлю, а эканоміць на асьвеце і войску... Урад сваім законам хоча пахаваць навек зямельную рэформу. Бо-ж тое, што прадстаўляе законапраект пасьля сэнацкіх „паправак“, гэта — па-просту правакацыя сялянства... Ані ўрад, ані ўрадавая большасьць Сойму за ўвесь гэты час не зрабілі ніводнага кроку, каб паразумецца з сялянскай апазіцыяй. Дык ясна-ж, што яны жадаюць, каб гэтая апазыцыя далей рабіла абструкцыю (перашкаджаньне працы Сойму), бо тады ўвесь закон праваліцца, а яны будуць вінаваціць у гэтым перад усім нас—вызваленцаў. Дык вось, каб не зрабіць таго, чаго чакаюць ад нас урадавыя партыі, мы... спыняем абструкцыю проці прыняцьця гэтага нягоднага ўставу... Але зараз-жа пасьля яго прыняцьця мы... распачынаем барацьбу за новую — за добрую запраўдную зямельную рэформу“...

Вось як—акурат, як і пэпэсы,— выкруціліся крывадушнікі—вызваленцы з палажэньня. Дый ня дзіва: бо акурат гэткі закон, які прыняты Соймам, дае вызваленцам, прынамся на „крэсах“, якраз тое, што яны тут перад усім бароняць: асадніцтва...

Фальшывасьць і недарэчнасьць усяго тлумачэньня вызваленцаў кідаецца ў вочы. — Калі вызваленцы запраўды лічаць закон дрэнным і шкодным, дык хай-жа ён валіцца, бо гэта можа змусіць урадавую большасьць апрацаваць другі—мо трохі лепшы, а ў кожным разе ня будзе прынамся дрэннага і шкоднага.. І калі частка „віны" за гэты правал шкоднага закону будзе звалена ўрадам на Вызваленьне, дык — якая-ж гэта віна? Гэта-ж заслуга перад сабой і перад сялянствам! Так развагкавала якраз запраўдная сялянская апазіцыя—прадстаўнікі няпольскіх сялян: Беларуская Сялянска-Работн. Грамада, нацыянальныя клюбы, ды з польскіх партыяў—Незал. Партыя Хлопска.

Дык вось першым вынікам гэтай здрады Вызваленьня і быў правал прапазіцыі п. Баліна аб зьняцьці закону з парадку дня.

**Абшарніцка-асадніцкія папраўкі Сэнату.**

Сойм прыступае да аканчальнага галасаваньня „паправак" Сэнату.

Мы ня будзем падробязна разглядаць усе гэтыя папраўкі. Адзначым толькі, што ўсе яны бяз вынятку—чыста абшарніцкія. І вось найважнейшыя з іх для абшарнікаў, а перад усім—найшкаднейшыя для няпольскага сялянства на „крэсах"—былі аканчальна прыняты новай соймавай—процісялянскай большасьцю (ад эндэкаў да пэпэсаў).

Крайняя сялянская апазіцыя рабіла, што магла, але процісялянская большасьць, якую пасыўна падтрымала Вызваленьне, пераважыла.

Напрыклад, найважнейшая для абшарнікаў папраўка Сэнату аб тым, што значная частка выкупу за зямлю выплачываецца скарбам у **гатоўцы** (злотымі), а ня выключна дзяржаўнымі працэнтнымі паперамі (так-званай „зямельнай рэнтай"), як пастанавіў сьпярша Сойм,—гэтая папраўка была прынята большасьцю 206 галасоў проці 94.

На гэтае руйнаваньне — на карысьць абшарнікаў—ледзь дыхаючага дзяржаўнага скарбу рэагавалі вострай абструкцыяй толькі славянскія меншасьці дый сяляне партыі Ваяводскага і Баліна... Рэшта „санатараў" скарбу вітала „перамогу дзяржаўнага розуму Сойму"... За сьпевы „антыпаньствовых" песьняў шмат паслоў з апазіцыі былі аштрафаваны маршалкам Сойму...

Але „гвазьдзём" паседжаньня — запраўдным гвазьдзём, убітым у труну няпольскага сялянства ў Польшчы зьявілася прыняцьце сэнацкай папраўкі да 50 артыкулу „закону аб парцэляцыі і асадніцтве".

Хай-ж беларускае сялянства добра запамятае гэты артыкул у новай яго рэдакцыі, прынятай фактычна ў выніку ўтварэньня новага процісялянскага, а перад усім — процібеларускага фронту ў Сойме.

Гэты артыкул кажа, што парцэляваныя абшары павінны быць выкарыстаны перад усім на папаўненьне малазямельных (карлаватых) гаспадарак.

Як ведама,—пад націскам абструкцыі усей сялянскай апазіцыі і ў выніку падтрыманьня „вольных" тады яшчэ ад саюзу з эндэцыяй пэпэсаў,—Сойм дадаў да гэтага артыклу ў канцы яго словы—„бліжэйшых вёсак"., Важнасьць гэтай папраўкі Сойму для „крэсаў" зразумее кожны беларускі селянін: бо-ж гэтай папраўкай забясьпечывалася хоць у нейкай малой меры (—пасьля асаднікаў!) такжа і нашае сялянства зямлёй нашых „крэсавых" абшарнікаў.

Сэнат адкінуў гэтыя канцавыя словы... І цяпер ужо ў Сойме, ня гледзячы на „ўплывовую ролю" ў урадавай большасьці пэпэсаў,—не знайшлося большасьці, каб адкінуць гэтую правакацыйную папраўку сэнацкіх абшарнікаў... 166 галасамі проці 134 яна было прынята..

**Бура пратэстаў сялянскай лявіцы.**

Тады на лаўках сялянскай апазіцыі пачалася бура... Старшыня крычыць, штрафуе, запісывае „да пратаколу", выдаляе з салі. Але нічога не памагае. Урэшце ўсе славянскія меншасьці, а за імі Незалежныя Сяляне Валіна і Ваяводскага, выходзяць у знак пратэсту з салі. За імі ў хвасьце ідуць вызваленцы, у канцы выходзяць і пэпэсы—больш са злосьці на выказаўшых ім больш як непашану „прыяцеляў справа" і саюзьнікаў—пястоўцаў і эндэкаў...

Усе далейшыя папраўкі Сэнату на карысьць абшарнікаў прымаюцца „запраўднымі гаспадарамі" — бяз помачы іх слуг —пэпэсаў—зусім гладка...

Хай-ж беларускі селянін крэпка запамятае, які падарак зрабіў яму Польскі Сойм на Сьвяты 1925 году, спэцыяльна дзеля гэтага сабраўшыся ізноў.—Новы год у Польшчы пачынаецца сымвалічна падменай запраўднай зямельнай рэформы—„законам аб асадніцтве"—аб нічым неабмежаваным разьвіцьці польскага асадніцтва на беларускіх і ўкраінскіх землях...

## Паседжаньне 29 сьнежня.

**Спагон падаткаў у натуры.**

На другім з сьвяточных паседжаньняў Сойму найважнейшым і яўна скіраваным проці сялянства законапраектам, прынятым у другім чытаньні, быў закон аб спагоне падаткаў з „рольнікаў"—у натуры, збожам.

Каб даць паняцьце аб тым, што такое гэты закон і чаму ён даўжэй за ўсе „санацыйныя" уставы мін. Зьдзехоўскага заляжаўся ў камісіі, праслухаем, што піша аб гэтым добра заўсёды паінфармаваны радыкальны тыднёвік „Głos Prawdy". Газэта перад усім сцьвярджае, што думку забіраць у „рольнікаў",—значыць: як у абшарнікаў і кулакоў, таксама і ў голых малазямельнікаў! — на падаткі збожа—пададзена ўраду... „лявіцай", ці папросту панамі пэпэсамі! Ведама, што яны мініліся гэтым перад усім змусіць паноў абшарнікаў, каб тыя нарэшце заплацілі падаткавыя залегласьці і належнасьці. Думка, няма што казаць,—добрая. Але-ж ведама, што гэтыя паны абшарнікі—мудрэйшыя за пэпэсаў, дый не на тое пусьцілі іх да ўраду, каб тыя запраўды перашкаджалі ім рабіць сваі інтэрэсы...

Дык вось п. Стпічыньскі расказывае, што гэты законапраект спакойна сабе вылежываўся ў партфэлі нейкага п. Грушкі, а пакуль што абшарнікі і вітасавы кулачкі, карыстаючыся з дадзеных ім урадам палёгак, — шалёным тэмпам вывозілі сваё збожа за-граніцу...

І вось толькі цяпер, калі ў абшарнікаў засекі ўжо пустыя, бо збожа або вывезена, або, што патрэбнае для сябе, добра пахавана, — вось цяпер зусім ужо няшкодны для іх закон можна прапусьціць праз Сойм. А пакуль ён пройдзе і праз Сэнат, дык навет найпавальнейшы абшарнік ці пястоўскі шэршань ачысьціць усе сваі сьвірны ад небясьпечнага збожа! Астанецца збожа толькі ў малазямельных хлебаробаў—для сябе на пракорм дый на насеньне.—Дык вось якраз гэтае збожа і будуць—паводле пекнай думкі паноў пэпэсаў — забіраць на падаткі...

Пасьля гэтых выясьненьняў нашыя чытачы добра зразумеюць той рашучы адпор, які спаткаў гэты законапраект з боку ўсей сялянскай апазыцыі Сойму.

Прадстаўнік Беларускай Грамады п. **Мятла** вельмі рэзка і слушна высьвятліў увесь процісялянскі зьмест пэпэсаўскага ўставу.

П. **Чучмай** (украінскі клюб) дамагаўся рашучага скасаваньня ўсіх падаткавых нядоімкаў сялянства, якое ўсё роўна ня можа плаціць, а можа толькі руйнавацца далей.

Вызваленец **Лыпацэвіч** слушна даводзіў, што закон адчыняе шырока дзьверы для ўсялякіх надужыцьцяў—гвалтаў і хабароў. Тое-ж, але шмат больш рэзка даводзіў і пас. з Незалежнай Сялянскай Партыі Шакун.

Пас. **Станкевіч** (Белар. Клюб) раскрыў зьмест уставу, які хоча ратаваць места коштам вёскі.

Абшарніцкі пас. **Оссовскі** — і той даводзіў, што, бяручы збожа замест гатоўкі, будуць самавольна нізка ацэніваць збожа.

Гэты выбух пратэстаў і крытыкі трохі скрануў з мейсца ўрадавую большасьць, і пястовец Янэчэк падаў папраўку, каб, апрача нятыкальнага запасу збожа на насеньне і корм для скаціны, пакідалі яшчэ хлеб і на выжыўленьне для сям'і.

Пасьля гэтай зусім няяснай папраўкі антысялянскі закон быў прыняты ў другім чытаньні ўсім Соймам—проці ўсіх хлебаробаў, выключаючы толькі пястоўцаў...

**Закон аб павялічэньні караў за спазьненьне падаткаў.**

Але і гэткага скарпіёну для сялянства паказалася яшчэ мала сучасным валадарам Польшчы. — Прыняты быў у другім чытаньні і апошні з „санацыйных"—коштам працоўных і ўбогіх слаёў насяленьня—законаў мін. Зьдзеховскага—закон аб павялічэньні караў за спазьненьне ў аплаце падаткаў... Калі-б у каго яшчэ аставалася сумляваньне ў тым, ці запраўды эндэцка-пэпэсаўская „санацыя скарбу" мае адбыцца выключна коштам працоўных, дык гэты закон рассеівае апошні сумліў!

Запраўды-ж сам дакладчык сцьвярдзіў, што ўсяго падаткавых нядоімкаў у Польшчы лічыцца аж 400 мільёнаў злотых. З гэтай сумы аж 200 мільёнаў не даплочана маёнткавага падатку; другія 200 мільёнаў — іншых падаткаў, — ведама-ж, пераважна няплочаных тымі, што ня маюць чым заплаціць.

Дык вось новы ўстаў прапануе больш суровымі мерамі і карамі спаганяць толькі гэтыя апошнія 200 мільёнаў нядоімкі, а першыя 200 міл.— з маёнтку заможных клясаў—з-пад новага ўставу чамусьці выключаны.

Чаму гэткія прывілеі заможным, можа аб гэтым штось ведаюць „абаронцы беднаты" ў урадзе—паны пэпэсы?!

Ізноў уся сялянская лявіца разам з жыдамі пратэставала проці закону, але ён, зразумела, прайшоў цалком бяз ніякіх паправак.

## Апошняе паседжаньне 1925 году.

**Устаў аб чужаземцах.**

Мы дамо больш абшырны разгляд слаўнага гэтага ўставу. А цяпер толькі сцьвердзім, што ня было-б запраўды поўнага камплекту „падаркаў" няпольскаму сялянству з боку польскага Сойму, калі-б яго ўрадавая большасьць не дадала-б да сацыяльна-гаспадарчых скарпіёнаў, якія прыгатаваны для яго на Новы Год, — яшчэ і скарпіёнаў паліцэйскіх. Дык вось гэтым апошнім скарпіёнам і зьявіўся слаўны ўстаў аб „чужаземцах".

Пакуль што сцьвярджаем ізноў, што гэты ўстаў дае поўную магчымасьць адміністрацыі і паліцыі выкідаць па-за граніцы дзяржавы ўсіх, каго яны будуць лічыць „чужаземцам"... Бо-ж ведама—чужаземец — той, каму паліцыя не дала пашпарту „абыватэля". А калі ня маеш пашпарту, дык—маеш права быць выкінутым за кардон. Сам пэпэсавец Прагер заявіў, што пэпэсы зрабілі ўсё, каб зрабіць устаў (ці паўнамоцтвы адміністрацыі) найбольш эластычнымі, каб, значыць, гнуўся ён на ўсе бакі, як гэта будзе патрэбна і карысна—„сувэрэннаму паньству Польскаму"... Крывадушны сацыял-паньствовец добра ведае, што, замест нейкага там далёкага „Паньства", справу будзе вырашаць значна бліжэйшы — пан староста, ці — ў глухіх кутох на „Крэсах" — папросту пан „пастарунковы"...

# Прамова

дэпутата Мятлы з Соймавага Клюбу Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады, сказаная на паседжаньні Сойму 17./XII. 1925 г. у часе дыскусіі над уставам аб срэдствах запэўненьня бюджэтнай раўнавагі.

Паны! ужо папярэдні ўрад п. Грабскага ратаваў гаспадарчую сітуацыю Польшчы слаўнымі „санацыйнымі ўставамі". У рэзультаце яго гаспадаркі, у рэзультаце дзейнасьці тых санацыйных уставаў Польская Дзяржава апынулася цяпер на парозе руіны і ў самым агні нябывалай дагэтуль гаспадарчай катастрофы. Цяпер пануючы міласьціва над намі коаліцыйны ўрад абшарніцка-капіталістычнай супалкі і пагадзіўшыхся з ёю сялянскіх і работніцкіх групаў пасьля гучных і многа абяцуючых завярэньняў прыступае з усім размахам да... прадаўжэньня гаспадарчай палітыкі папярэдняга ўраду. Ці, інашай кажучы, польская буржуазія нічога не забылася і нічога не навучылася. Яшчэ раз сцьвярджаем, што рэвалюцыйныя сялянска-работніцкія групы ня мелі абсолютна сумляваньняў адносна да гэтага.

Сёньня коаліцыйны ўрад п. Скшыньскага прапануе нам новыя санацыйныя праекты, жадаючы безадкладнага прыняцьця іх, не шкадуючы з свайго боку абяцанак, што пасьля прыняцьця гэтых уставаў гаспадарчы крызіс будзе зьліквідаваны і вялікае шчасьце спадзе на ўсіх грамадзян Польскае Дзяржавы.

Сцьвярджаем, што запрапанаваныя ўрадам санацыйныя праекты прыпячатваюць тое, што робіцца цяпер, аберагаючы кішані абшарнікаў і капіталістаў; ускладаючы ўвесь цяжар утрыманьня буржуазнай дзяржавы, якая разваліваецца, на плечы працоўнай люднасьці мест і вёсак, заганяючы мільёны людзей у пекла апошняй нэндзы і згубы.

Устаў аб срэдствах запэўненьня бюджэтнае раўнавагі мае на мэце павялічэньне дзяржаўных даходаў, паміж іншым, шляхам зьмяншэньня пэнсіяў для ўдоў, сірот і ваенных інвалідаў, засуджаючы гэтым самым людзей, пазбаўленых заробку, на яшчэ большую нэндзу і голад, не шкадуючы навет тых, што сталіся ахвярай імпэрыялістычнай вайны, бароначы абшарніцка-буржуазныя інтарэсы.

Адносныя параграфы ўставу зьяўляюцца яшчэ болей крыўднымі для ўдоу, сірот і інвалідаў Заходняй Беларусі, якія ўжо сёньня ў аграмаднай большасьці зусім пазбаўлены ўрадавай дапамогі. Выданае ў сваім часе распараджэньне аб рэгістрацыі ўдоў, сірод і інвалідаў ня прыняла пад увагу, паміж іншым, варункаў зносінаў на землях Заходняй Беларусі, дзякуючы чаму вялікая лічба гэтых бедакоў ня мела магчымасьці зарэгістравацца ў вызначаным часе і дзеля гэтага ўтраціла права карыстаньня дасюлешнімі капеечнымі дапамогамі ўраду. Цаною найвялікшых ахвяр імкнецеся вы сёньня, паны капіталісты, да ашчаднасьці, да латаньня дзіраў у сваей рвучайся на кавалкі дзяржаўнай гаспадарцы.

Паны! Як прадстаўнік працоўных масаў Заходняй Беларусі і як народны вучыцель па прафэсіі, я ганьбую з гэтай трыбуны запрапанаваны ўстаў таксама і затым, што ў 14 арт. ён імкнецца да ашчаднасьці цаною асьветы працоўнага народу. Не даволі таго, што польская ўлада на землях Заходняй Беларусі ад першага мамэнту прылучэньня гэтых зямель да Польшчы вядзе заядлую і ўпорную барацьбу з асьветаю беларускай працоўнай люднасьці. Не даволі таго, што наша люднасьць сёньня зусім пазбаўлена школы з матчынай беларускай выкладовай мовай, што нашыя імкненьні да беларускай асьветы і культуры прызнаюцца панска-польскімі ўладамі за „антыпанствовыя" і зьяўляюцца яшчэ аднэю прычынаю да брутальных рэпрэсіяў і гвалтаў у адносінах да беларускай люднасьці,—артыкул гэты ўводзіць далейшыя агранічэньні правоў працоўнай люднасьці ў імкненьні да асьветы; справа, іменна, у тым, што на адну вучыцельскую сілу мае выпадаць яшчэ болей дзяцей ў школе, чымся было да гэтай пары, ня гледзячы на тое, што ўжо цяперашні стан рэчы не адпавядае элемэнтарным вымаганьням у гэтай галіне.

Тады, як навет пры царызьме на аднаго вучыцеля прыходзілася 40 дзяцей, — у незалежнай Польшчы павялічылі гэтую лічбу да 60, а цяперашні ўстаў павялічвае яе яшчэ для адно,—дву—і трыклясовых школаў з 60-цёх да 80, з 100 да 120, з 150 да 170. Непатрэбна хіба казаць, што пры гэтакіх варунках вучэньня найлепшы навет вучыцель пры найлепшым навет жаданьні не дасягне дадатных вынікаў ад сваей працы.

Сьведчыць гэта аб тым, што аднэю з галоўных мэтаў запрапанаванага ўставу зьяўляецца павялічэньне працэнту бязграматных, імкненьне буржуазіі да павялічэньня цемнаты душаных ёю работніцкіх і сялянскіх масаў. Вось, у якім напрамку мае ісьці вашая новая „санацыя".

Для нас, беларусаў, для народу, жывое цела якога разьдзерла на дзьве часткі гвалтам накінутая нам гранічная мяжа, асабліва красамоўным робіцца факт, што, пад той час, як у Заходняй Беларусі пад панска-польскаю ўладаю з нашай культурай вядзецца барацьба, нішчыцца нашае школьніцтва,—у Усходняй частцы нашага краю—у Радавай Беларусі—пад уладаю сялян і работнікаў буйна разрастаецца і рвецца да жыцьця нашая беларуская культура і беларускае школьніцтва. Бо-ж істнуе там 4.000 беларускіх пачатковых школ, 10 пэдагагічных сэмінарыяў, 4 вышэйшыя школы. Пашыраны сёньня вамі ў поўнай расьцяжнасьці кліч: „Далоў граматных"—ніколі ня быў высказаны сялянска-работніцкай уладай. Наадварот: сьмела сёньня можна сказаць, што ніхто гэтак рупна і гэтак прадукцыйна ня можа змагацца і не змагаецца з цемнатою

і бязграматнасьцяй працоўнага люду, — як іменна сялянска-работніцкая ўлада.

Дзеля вышэйсказанага ад імя Клюбу Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады заяўляю, што будзем галасаваць проці ўставу аб срэдствах забясьпечаньня бюджэтнай раўнавагі.

# Аб чым пішуць.

### „Культурная сувязь з зарубежжам“.

Аб гэтым вельмі важным для беларусаў пытаньні піша З. Жылуновіч у „Сав. Бел.“:

„Слова Беларусь зарубежжам зычыць незразумелым тэрмінам, або, у найлепшым выпадку, тэрмінам малазначучым. Кожны раз яно зьбівае на Расею.

Паміж тым, поўнае ўсьвядомленьне аб істнаваньні Бел. Сав. Сац. Рэспублікі, аб разьвіцьці яе культуры—літэральна захапляе зарубежнага слухача. Гэтым тлумачыцца хоцьбы тая гострая цікавасьць да беларускае савецкае культуры, якая адзначылася ў час прыезду ў Прагу пісьменьнікаў Янкі Купалы і Міхася Чарота восеньню бягучага году. Усе газэты надрукавалі аб гэтым, а на раптоўную скорасьпелую літэратурную вечарыну сабралася шмат чэскіх літэратараў і журналістаў. І нямецкія пралетарскія пісьменьнікі некалькі разоў зьбіраліся на агульны сход, каб запрасіць беларускіх гасьцей да сябе, і паінфармавацца аб іх дасягненьнях. І калі, у сілу незалежных прычын не ўдалося гэтага зрабіць, нямецкія таварышы засталіся моцна пакрыўджанымі.

Патрошку, тым ці іншым шляхам прабіваюцца зарубеж весткі аб Савецкай Беларусі і яе культурным разьвіцьці і, таксама зацікаўліваюць і прафэсуру славянскага інстытуту пры Бэрлінскім унівэрсытэце і некаторых прафэсароў Кенігсбэрскага ўнівэрсытэту і прафэсуру ўнівэрсытэту Пражскага. Але ўсё гэта крупінкі. Жыцьцё настойна вымагае ў самых шырокіх памерах заснаваць цесную культурную сувязь паміж беларускай і зарубежнай культурамі. Зарубежныя рабочыя павінны ведаць, як пасьпешна будуюць новую сваю культуру вызваленыя з векавое няволі беларускія рабочы ды селянін. Павінны ведаць і браць навуку для сябе, каб, у час прыходу іх да ўлады, ісьці шляхам савецкіх работніцка-сялянскіх рэспублік.

Прэзыдыум Інстытуту Беларускае Культуры зьвярнуў на гэтае пытаньне належную ўвагу і на апошнім сваім паседжаньні намеціў тройку, якая-б занялася пытаньнем аб тым, як наладзіць і пашырыць культурную сувязь з зарубежжам“.

Увагі гэтыя, як і пастанова Інбелкульту,—зусім слушныя. Праца, ведзеная беларусамі заграніцай у кірунку азнаямленьня заграніцы з беларускім пытаньнем, зусім прыпынілася з таго часу, як кіраўніцтва ёю ўзяў у свае рукі „ўрад“ Ластоўскага. А цяперашняя астача эміграцыі—ўсе гэныя Грыбы, Мамоньні ды Крэчэўскія—гэта-ж людзі, няздольныя да ніякае працы, апрача інтрыганцтва і пэцканьня ўсяго беларускага перад чужынцамі.

Пры нагодзе адзначаем, які прыём спаткалі ў Празе нашы пісьменьнікі з Менску. Вось аб гэтым дык нашы эмігранты ня лічылі нават патрэбным паведаміць край, і мы даcталі вестку гэтую толькі акольнай дарогай—праз Менск і Варшаву!

Характэрна для пражскіх недабіткаў...

# Важнейшыя здарэньні.

## У Польшчы.

### Забурэньні сярод безработных.

Напярэдадні новага году ў Лодзі ізноў адбылася дэманстрацыя безработных, якія таўпой падыйшлі пад гмах, дзе жыве ваявода. Ваявода прыняў дэлегатаў, доўга размаўляў з імі, але гэтая панская ласка не накарміла галодных, дык чакаўшыя на вуліцы (—ведама-ж, пад уплывам агітацыі камуністаў, як і піша п. ПАТ)—пачалі „захоўвацца неспакойна“, у выніку чаго некалькі вокнаў у ваяводзкім гмаху былі выбіты. Таўпа хацела ўварвацца да ваяводы, каб пагаварыць з ім без пасрэдніцтва дэлегатаў. Але тады ўжо навет быламу пэпээсаўскаму міністру працы і апекі сацыяльнай, п. Дароўскаму (лодзінскі ваявода), прышлося паклікаць паліцыю... Той-жа пан ПАТ сцьвярджае, што „паліцыя ня ўжывала аружжа“.

У больш вострай форме адбыліся дэманстрацыі безработных у Пазнані — у Навагоднюю ноч. Пад той час, як багачы балявалі і пілі шампанскае, вялізарны натоўп безработных рушыў на галоўныя вуліцы места, разьбіваючы вялікія вокны ў цэлым радзе банкаў, крамаў, ды на пошце. Шкоды зроблена на вялізарную суму. — Паліцыя разагнала ўрэшце дэманстрантаў, пры чым заарыштавала колькідзесят асоб.

### Дарагоўля расьце.

Паводле аблічэньняў „Глосу Праўды“, дарагоўля ў Варшаве (дый тое-ж усюды) за сьнежань узрасла больш як на 40 проц. Гэта значыць: калі якісь працаўнік зарабляў у пачатку сьнежня 100 злотых у месяц, дык у канцы месяца з гэтых 100 злотых пэнсіі ён запраўды мае грошы, вартыя толькі 60 злотых...

„Вось тут і жыві“, як казаў Янук Купала!

### Адозва п. Вітоса.

Правадыр пястоўцаўскіх кулакоў п. Вітос выдаў адозву пад загалоўкам: „Дзе праступленьне і хто—праступнікі“. Былы прэм'ер хіена-пястоўскага ўраду, у 7 месяцаў разграбіўшага на 90 процэнтаў „айчызну“, пакінуўшы толькі апошнія 10 проц. — п. Грабскаму на яго „санацыю“, — у адозьве сваей выхваляе сябе і свой былы ўрад, ды лае, на чым сьвет стаіць, урад Грабскага.

### Падарожа польскіх дэпутатаў у СССР.

8 студня выбіраецца ў вялікую падарожу ў СССР група 22 дэпутатаў розных клюбаў Польскага Сойму,—як правіцы, так і лявіцы.

„Kur. Polski“ падчырківае, што ня едуць паны пэпээсы.—Ведама-ж, гэтыя „эўрапэйцы“ цікавяцца больш Заходам, як Усходам...

### Абніжэньне пасольскіх пэнсіяў.

Старшыня Сойму, паразумеўшыся з пасламі, абнізіў пасольскія пэнсіі на 10 проц. Невялікі гэта ратунак для для польскага скарбу: гэтага ня хопе навет на пасылку на скачкі ў Ніццу польскае „эквіпы“—паноў афіцэраў з коньмі...

### Кангрэс Партыі Польскіх Сацыялістаў.

31 сьнежня ў Варшаве пачаўся кангрэс (агульны зьезд) партыі пэпээсаў (ППС), які меў працягнуцца некалькі дзён. На павестцы зьезду —рад спраў бягучага палітычнага характару, і выбары партыйных уладаў.

Ведама-ж — запраўдныя гаспадары ўраду — эндэкі—зробяць усё, каб паны дэлегаты добра „пабавіліся“ ў Варшаве, паказаўшы гэтым „вялікія ўплывы“ пэпээсаўскіх правадыроў у габінэце... А гэтыя апошнія патрапяць „замыдліць вочы“ дэлегатам на тое, што запраўды — гатуецца для пралетарыяту гэтым коаліцыйным урадам.

### З „Вызваленьня“ вызваляюцца яго сябры далей.

З партыі „Вызваленьне“ ўцёк чарговы пасол Цьвековскі. У лісьце да партыйных уладаў „вызволены“ з Вызваленьня пасол даў волю сваей пагардзе да партыі, якая не працівіцца злу, пануючаму ў Польшчы, адступіла даўно ад сваей праграмы, нічога ня робіць,—бо няздольна да працы і здыхае з маразму. П. Цьвековскі—сын селяніна, юрыст з вышэйшай школы.

### Паслалі па „аўстрыяцкі розум“.

У сваім навагоднім „вывядзе“ з журналістамі мін. Рачкевіч абяцаў, што ён здолее выпаўніць зададзеную яму габінэтам задачу — перабудаваць увесь адміністрацыйны лад у Польшчы. Але, — хоць вялікі бясспрэчна п. Рачкевіч і яго дасьлед і таленты,—але — задача, можа, яшчэ вялікшая. Дык прэм. Скшыньскі, відаць, давярае больш свайму роднаму „аўстрыяцкаму адміністрацыйнаму розуму“, — бо запрасіў на гэтую працу старога кракаўска-венскага бюракрата п. Бобжыньскага (былага намесьніка аўстрыйскага імпэратара ў Галіцыі). Але-ж той, здаецца, якраз пладзіў польскіх бюракратаў у даўнейшай Галіцыі, дык—ці-ж патрапіць таксама добра рэдукаваць іх у сучаснай Польшчы?!

## Заграніцай.

### Нямеччына, Польшча і Ліга Народаў.

Ведама ўсім, што ўсё, што наагул друкуецца ў францускіх газэтах, аплочана напярод заінтэрэсаванымі асобамі, ці ўстановамі... Гэтым славіцца на ўвесь сьвет прэса буржуазнай Францыі!

Дык вось у аднэй з ходкіх парыжскіх газэт („Эхо Парыжу“) адзін з найбольш прыхільных да Польшчы (ці можа да польскай валюты?) сэнатараў Францыі надрукаваў артыкул, у якім вельмі горача радзіць, каб у выпадку ўваходу Нямеччыны ў склад Рады Лігі Народаў, туды-ж—дзеля раўнавагі — была дапушчана і Польшча.

Нямецкая прэса вельмі каротка адказывае на гэты артыкул францускай.—Яна піша, што здзейсьненьне гэтай думкі папросту перашкодзіла-б уваходу Нямеччыны ў склад Лігі... Дык хай правадыры Лігі выбіраюць!

### Вясёлы куток Лёкарнскай Эўропы.

У Лёкарнскай Эўропе—скандал!.. І вінавайца скандалу ў шляхотнай лёкарнскай сям'і — Чычэрын...

Справа—у тым, што п. Чычэрына ў Бэрліне частаваў урачыстым абедам ніхто іншы, як генерал Зэкт. Гэты ген. Зэкт зьяўляецца „міністрам райхсвэры“, бо-ж ваеннага міністра ў Нямеччыне няма і ня можа быць паводле Вэрсальскага Трактату...

Ужо самае гэтае частаваньне ворага Англіі нямецка-лёкарнскім міністрам зьяўляецца дэманстрацыяй проці Англіі. Але тое, што было на гэтым абедзе,—яшчэ горш!

## Вынятковы стан — даразныя суды — прадоўжаны.

Як ведама, царска-жандарская Расея мела — найлібэральнейшы ў сьвеце... праўда, не канстытуцыю, толькі—угалоўны Кодэкс (збор законаў), які навет ня ведаў кары сьмерці,—бо ў „хрысьціянскай манархіі“ памазаньніка Божага ня можна-ж было фармальна нарушаць прыказаньне таго-ж самага Бога—„не забівай!“. І вось толькі ў парадку „вынятку“—дзеля барацьбы з слугамі самога чорта на зямлі—з рэвалюцыянэрамі-царазабойцамі —сам „памазаньнік“ дазволіў судам забіваць іх... А з прычыны таго, што, забіваючы царскіх слугаў, гэтым самым рэвалюцыянэры як быццам часткова забівалі і самога цара, дык гэтае „Вынятковае Палажэньне“ пачало тасавацца неабмяжована-шырока. З другога боку—дзіўная рэч, але—факт, што гэтыя царазабойцы-рэвалюцыянэры ад гэтага тасаваньня да іх кары сьмерці ня толькі не вывадзіліся з „зямлі Рускай“, але, наадварот, як тыя апошнія багатыры ў расейскай быліне, толькі множыліся... Дый урэшце размножыліся да таго, што зьелі ня толькі самога цара і ўсю яго радню, але і ўсіх яго слуг...

Дык вось, аб чым-жа гэты мы?! — Ага, дык вось гэтае „Вынятковае Палажэньне“, уведзеннае сьпярша толькі на паўгода—„да ўспакаеньня“—праістнавала ад 1881 году аж... да самай другой Расейскай Рэвалюцыі...

Пасьля гэтай прыказкі зьвернемся да казкі.

30 сьнежня канчаўся срок заведеных у Польскай Рэспубліцы — распараджэньнем Рады Міністраў (з нарушэньнем Польскай Канстытуцыі) — даразных судоў. Паводле гэтага фактычна вынятковага стану, суды мелі права законна забіваць людзей, ня вельмі доўга разьбіраючыся ў „сцьверджаных“ яўна праступленьнях. Асаблівыя паўнамоцтвы гэтым судом былі дадзены, калі справа йшла аб забойства, а навет замах—на ўрадоўцаў —на слугаў таго, хто заступае ў Рэспубліцы цара... А таксама ня меншыя паўнамоцтвы мелі гэтыя суды і тады, калі розныя бандыты,—ведама-ж, пераважна на „Крэсах“,—шкодзілі маёнткам і маемасьцям прыраджоных валадароў гэтых „Крэсаў“. І вось у той-жа дзень, калі тэрмін моцы гэтых вынятковых судоў канчаўся, Рада Міністраў ізноў выдала—і ізноў з пагвалчэньнем Канстытуцыі — новае распараджэньне: прадоўжыць моц гэтага вынятковага стану на новае паўгоду—да 30 чэрвеня 1926 г.

У выніку гэтага распараджэньня даразныя суды будуць працаваць далей на ўсім абшары беларускіх і ўкраінскіх „Крэсаў“, ды ў некалькіх паветах Варшаўшчыны. Ня ўзноўлены гэтыя суды толькі ў некалькіх паветах Галіччыны.

---

У адказ на розныя прывітальныя прамовы п. Чычэрын, каб добра аддзячыцца, сказаў хлебасольнаму гаспадару так сабе невялічкую прамоўку, у якой ён пашкадаваў п. міністра Райхсвэры, што пад яго загадам такая малая армія... Але ў канцы дык і пацешыў: што, калі будзе Нямеччыне патрэба, дык СССР дапаможа ей — сваёй вялікай...

Калі аб гэтым абмене ўзаемных ветлівых пажаданьняў даведаўся ў Лёндане сам галава Лёкарнскае сямейкі Чэмбэрлен, дык аж пазелянеў!.. І зараз жа загадаў англійскаму паслу ў Бэрліне сказаць нямецкаму ўраду, што гэткія гарачыя абеды і прамовы могуць значна... астудзіць адносіны паміж Англіяй і Нямеччынай... Добра яшчэ, што ў Нямеччыне ніякага адказнага ўраду няма, а ёсьць толькі — „урадоўцы“, якім п. прэзыдэнт даручыў часова спаўняць абавязкі міністраў...

### Шляхам Польшчы.

На захады францускіх міністраў у Амэрыцы аб пазыцы адгукнуўся вялізарны амэрыканскі тытуновы трэст (аб'яднаньне капіталістаў і фабрыкантаў гэтае галіны прамысловасьці). Ён запрапанаваў францускаму ўраду вялікую пазыку—штось 600 мільёнаў даляраў, але—пад арэнду тытуновай манаполіі. Інакш кажучы, крэдыту Францыя ўжо ня мае!

### Спроба паразуменьня Турцыі з Югаславіяй.

У зьвязку з канфліктам між Англіяй і Турцыяй у Белград прыехаў турэцкі міністар заграничных спраў, які толькі што падпісаў умову з СССР у Парыжу, дзеля заключэньня такога ж ваеннага паразуменьня з Югаславіяй—на выпадак магчымай вайны з Англіяй... Ведама-ж—дыплёматыя СССР памагае гэтаму паразуменьню, манючыся ўцягнуць Югаславію ў вялікі ўсходні саюз народаў. Але Югаславія—яшчэ залішне маладая і нямоцна спаяная дзяржава, дый залежная ад стварыўшых яе саюзьнікаў, каб асьмелілася рашуча весьці сваю ўласную палітыку. Дык, што выйдзе з гэтай думкі Турцыі, цяжка сказаць.

### Азіяцкая Ліга Народаў.

Газэты пішуць, быццам бальшавікі заняты ў сучасны мамэнт арганізацыяй вялікага аб'яднаньня азіяцкіх народаў, якое-б паралізавала скіраваную проці іх эўрапэйскую так-званую Лігу (ці Ліха!) Народаў. Саюз СССР з Турцыяй мае быць ядром гэтай установы, да якога маюць далучыцца ўжо ў значнай меры падгатаваныя да таго — кітайцы, індусы, манголы, малайцы і іншыя.

### Рыхтуюцца—да міру...

Лёнданскія газэты пішуць, што англійскія ваен

ныя інжэнеры збудавалі ваенны самалёт новага тыпу, які робіць зусім лёгка да 180 англійскіх міль у гадзіну. Газэты з трыумфам дадаюць, што гэта — адказ Англіі на толькі што збудаваны вялікай хуткасьці аэраплян у Амэрыцы.

### Адказ Брыяна Абд-Эль Крыму.

Каб добра ацаніць запраўдную „пацыфічнасьць“ (мірныя імкненьні) пануючай у Эўропе імпэрыялістычнай буржуазіі, незалежна ад таго, ці правіца ці лявіца сядзіць на лаўках яе слігміністраў,—даволі даведацца аб тым, як адказаў Брыян на мірныя прапазіцыі афіцыяльнага паўнамоцніка Абд-Эль-Крыма. Калі капітан Кунінг — паўнамоцнік правадыра мароккскага паўстаньня— прыехаў у Парыж, дык францускі прэм'ер (ён-жа і міністар замежных спраў) Брыян навет ня прыняў яго, дый не пажадаў гаварыць з ім навет праз каго-небудзь з сваіх урадоўцаў... У першым-жа францускім месьце—у Марсэлі—п. Кунінг быў павядомлены, што францускі ўрад ня будзе весьці з ім перагавораў інакш, як разам і ў паразуменьні з гішпанскім...

### Што каштуе Францыі вайна ў Марокко і Сірыі.

Аднэй рукой „аздараўляючы“ свае фінансы, француская буржуазія другой руйнуе дзяржаўны скарб, выкідаючы сотні мільёнаў на бязглуздую і ўрэшце ўсё роўна безнадзейную вайну ў калёніях. І вось толькі-што францускі Сойм вялікай большасьцю прыняў дадаткавы крэдыт у суме 400 мільёнаў франкаў на гэтую вайну за 1925 г., а цяпер новы міністар ізноў падаў новы бюджэт на студзень 1926 году, у якім на гэтую вайну вызначана 120 мільёнаў.

### Наступнік румынскага трону зрокся сваіх правоў.

У манархічным сьвеце Эўропы — сэнсацыя: наступнік румынскага трону Кароль адрокся ад усіх правоў на трон, а навет і ад свайго слаўнага прозьвішча—Гогэнцоллерн.

### У Кітаі.

Рашучае ваеннае ўмяшацельства ў кітайскія справы Японіі, акупаваўшай амаль ня ўсю Манчжурыю, вельмі занепакоіла Амэрыку. Не чакаючы паразуменьня з іншымі вялікімі дзяржавамі, яна пастанавіла прыняць сама рашучыя меры.—Марскія ўлады экстранна выслалі ў кітайскія воды 6 браняносцаў і значны транспарт пяхоты, якая мае скіравацца да Цянь-Дзіна.

Можна спадзявацца, што за прыкладам Амэрыкі ахвотна зробяць тое-ж самае і іншыя жываеды.

Зусім ужо разьбіты нацыянальнай арміяй Чанг-Тсо-Лін, дзякуючы японскай дапамозе, хутка аправіўся і цяпер націскае на генарала Фэнга. Гэты апошні адходзіць на паўночны захад—на Калган.

Радавы ўрад, памагаючы ўсімі мерамі наагул вызваленчаму руху ў Кітаі, пакуль-што адкрыта ня ўмешываецца ў барацьбу, займаючы выжыдальную пазіцыю.

---

## ХРОНІКА.

**Новы беларускі пасол.** Як ведама, на месца б. пасла Кахановіча па беларускаму сьпіску ад Навагрудчыны павінен быў іcьці ў Сойм грам. Сабалеўскі. Вось-жа перш, чым былі зроблены патрэбныя фармальнасьці, паліцыя арыштавала яго, і проці яго быў распачаты палітычны працэс.

Цяпер, пасьля адпаведнае пастановы Сойму, каб справа яго была спынена да канца гэтага Сойму, Сабалеўскі звольнены з Лукішак і займе даўно належнае яму дэпутацкае месца.

**Проці папа-адступніка.** Віленскія польскія газэты апісываюць здарэньне, якое надовячы мела месца ў Аўгустыньянскім касьцёлі ў Вільні, у якім засеў вядомы „ojciec Filip Morozow“, што нядаўна з праваславія перайшоў у каталіцтва.

У часе пропаведзі супрацоўніка „ojca Filipa“, нейкага Сьлёзкі (ведама, у „істінно-польскім духу“) група моладзі падняла цэлы скандал, лаючы прапаведніка і быццам манючыся абкідаць яго каменьнямі. Паліцыя прымушана была „вярнуць парадак“.

Цікава, што польская прэса ўсіх кірункаў — пэўне-ж паводле загаду „начальства“—вінаваціць у гэтым... вучняў віленскай беларускай гімназіі і няістнуючага ў ёй вучыцеля Шаняўскага. Цікава—бо-ж яшчэ нядаўна тых-жа вучняў вінавацілі ў „бязбожнасьці“ і „камунізьме“, а цяпер з іх робяць „адзіных абаронцаў праваславія“...

Відаць, ня розумам польскіх рэдактароў пісана гэная заметка!...

**Напад на панскі двор.** Перад самымі сьвятамі банда замаскаваных людзей напала на маёнтак Тад. Корчыцы Зеленец (Навагрудзкага павету), зьвязала ўсіх, зрабавала ўсё, што было цэннага, і ўрэшце—падпаліла дом. Пасьля рабунку бандыты, як заўсёды, уцяклі, пакуль паліцыя здалела надыйсьці. Але для „спраўнасьці“ схоплены два мясцовыя жыхары—ведама-ж, беларусы сяляне, якіх і пацягнулі за ўчасьце ў нападзе...

**Арыштаваньне „акружнага камітэту Кампартыі ў Вільні“.** „Dzien. Wil.“ паведамляе, што паліцыйныя ўлады выкрылі і арыштавалі „акружны камітэт віленскіх камуністаў“, які быў арганізаваны 2 студэнткамі-камуністкамі варшаўскага ўнівэрсытэту, прыяжджаўшымі спэцыяльна для гэтага ў Вільню... з даручэньня варшаўскай цэнтралі. Студэнткі гэтыя—Ковеньска і Розэн — пасаджаны ў вастрог...

Падаем—„за што купілі, за тое прадаем“.

**Палёгкі для выезду на заробкі ў ССРР.** Эміграцыйная Управа ў Польшчы выдала распараджэньне ўсім установам так-званага „пасярэдніцтва працы“ (біржам працы), якім даецца паўнамоцтва выдаваць пасьведчаньні асобам, ня маючым у Польшчы магчымасьці знайсьці працу,— на права выезду ў ССРР. Гэтым „вынятковым прадкам“ могуць ехаць у ССРР і тыя, хто прадставіць доказ, што мае ўжо працу ў ССРР ці мае там крэўных, якія бяруць на сябе яго ўтрыманьне.

Няскладна ўсё гэта падана ў польскіх газэтах. Але ясна, што пэўныя палёгкі дзеля выезду безработных з Польшчы ня толькі на Захад, але і на Усход,—робяцца.

Калі хто з нашых чытачоў зацікавіцца, хай папытаецца, дык даведаемся дакладней аб усім.

**Ня будзе перапісі ў Віленшчыне.** Падрыхтваваная ўжо перапісь насяленьня і маемасьцяў у Віленшчыне, неахопленай перапісяй 1921 г., загадам міністра ўнутраных спраў адложана на неабмяжаваны час.

Віленскія газэты пішуць, што на гэтую падрыхтоўку ўжо вытрачана палова асыгнаваных на яе грошы—больш як 40.000 злотых, дый шмат трэба яшчэ будзе заплаціць асобам, што працавалі над падрыхтоўкай да перапісі...

Чаму адлажылі, ня пішуць.

**Папраўка.** У папярэднім нумары наш хронікёр падаў няправільна вестку, быццам зьмешчанае ў „Kur. Wil.“ пісьмо Паўлюкевіча з нягоднай лаянкай па адрасу Беларускага Нацыянальнага Камітэту надрукавала такжа рэдакцыя „Słowa“. Як аказалася, рэдакцыя абшарніцкага „Słowo“ з агідай адкінула гэны бруд, а зьмясьціў яго толькі... орган „дэмакратаў“ пана Хамінскага—„Kurjer Wileński“.

Тым горэй... для польскае дэмакратыі!

---

## З жыцьця Горадні.

× **Палітычны працэс „10“.** 15-га сьнежня 1925 года Горадзенскі Акружны Суд разглядаў палітычную справу беларусаў у ліку 10 чалавек: 1) Мікалая Перавалоцкага—сэкрэтара сэкрэтарыяту Беларускага Пасольскага Клюбу ў Косаўскім павеце, 2) Ціхана Кулініча, 3) Ігната Кулінка, 4) Пятра Лучыца, 5) Пятра Труцька, 6) Язэпа Марчыка, 7) Міхала Калтуна, 8) Мікалая Дзямідовіча, 9) Трафіма Клютка і 10) Мікалая Кулініча.

Усе абвінавачаны з арт. 102, часьць I К. К. у тым, што прыймалі ўдзел у камуністычнай арганізацыі і агітавалі проці парадкаў у Польшчы.

На суд выклікалі ўсіх 36 сьведкаў і 2 экспэртаў, некаторыя сьведкі абвінавачаньня не зьявіліся і іх паказаньне было прачытана на судзе.

Сярод сьведкаў былі сьведкамі паслы Сойму з Белар. Пасольск. Клюбу Ф. Ярэміч, пасол ППС Узембло і сэнатар ППС Седлецкі, якія сьцьвердзілі аб нявіннасьці падсудных.

Падпракуратар Мюллер у сваім апошнім слове адмовіўся ад абвінавачаньня Мікалая Кулініча і Язэпа Марчыка (П.П.С.).

Далей падпракурор прасіў аб укараньні падсудзімых з арт 102 ч. I К. К., а Дзямідовіча Мікалая, у якога забрана шэсьць лісткоў камуністычнай літэратуры, укараньня з арт. 129 і 132 К. К.

Абарона, апіраючыся на паказаньні сьведкаў, даказала беспадстаўнасьць абвінавачаньня. Шэсьць лісткоў камуністычнай літэратуры, знойдзеныя ў Дзямідовіча, ня могуць быць падставай для ўсіх абвінавачаных. Абарона прасіла аб звальненьні ўсіх, бо ўжо прасядзелі ў вастрозе 1 год і 4 месяцы.

Трэ падкрэсьліць, што Ціхан Кулініч заявіў, як ён быў зьбіты паліцыяй у Косаве, калі рабілі ў яго дапрос і што біцьцём прымусілі падпісаць яго пратакол. Суд вынес прыгавор: Дзямідовіча Мікалая засудзілі з арт. 129 К. К. на 1 год крэпасьці, залічыўшы яму сьледзтва 1 год, а рэшту апраўдаў.

× **Голас з вастрогу.** У ліпні 1925 г. быў арыштаваны Антон Сіцько, з вёскі Малая Бераставіца, Горадзенскага пав. Яго паліцыя арыштавала і павязла няведама куды, аб чым ужо было напісана ў беларускай газэце пад загалоўкам: „арышт каваля“. Цяперака аказалася, што паліцыя сьпярша зрабіла грунтоўнае „баданьне“, зьбіўшы яго чуць не да паўсьмерці, і прывязла ў Горадзенскі вастрог, дзе на насілках прынясьлі і палажылі яго ў бальніцу. Гэта бачылі, у той час будучы на прагулцы, палітычныя кабеты, з якіх адна абамлела.

× **Вось табе і „языковыя законы“.** У польскай жаноцкай гімназіі ў Горадні выкладаў Закон Божы ацец Вячаслаў для праваслаўных у матчынай мове. Але-ж у гэтым вучэбным 1925—1926 г. дырэктару гімназіі Вількашэўскаму гэта не спадабалася і ён заявіў айцу Вечаславу, каб ён Закон Божы для праваслаўных выкладаў папольску.

На гэтакую прапазіцыю а. Вечаслаў адмовіўся, і дырэктар гімназіі пачаў весьці перагаворы з япіскапам горадзенскім Аляксеем, які як быццам згагзіўся, каб рэлігія выкладалася папольску.

Цяперака шукаюць папа, які ўзяўся-б выкладаць рэлігію папольску і да гэтага часу яшчэ не знайшлі і рэлігія ў гэтым школьным годзе ўва ўсіх сярэдніх школах не выкладаецца.

Вось, гэта яшчэ адзін доказ, што законы „языковыя“ на паперы жывуць дзеля заграніцы.

---

## Карэспандэнцыі.

### Новы войт і яго першая дзеяльнасьць.

(З Міжавіцкае гм., Слонімскага пав.).

Тыдняў са тры назад наш войт Савіцкі звольнены з сваей пасады, ня гледзячы на тое, што ён шчыра працаваў на карысьць „айчызны“, спаганяючы падаткі і стаўляючы розныя перашкоды беларускім сялянам у дамаганьні сваей школы. Яшчэ раней быў звольнены і гмінны пісар Плаўскі. Прычыны звальненьня гмінных валадароў няведамы, але яны, як здаецца, будуць у тым, што гэтыя паны, хоць і паходжаньня шляхоцкага, але людзі тутэйшыя, а гэтае апошняе не памодзе сучаснасьці.

Але ня будзем шукаць прычынаў звальненьня, адно трэба сказаць, што калісь на месца звольненага войта жыхары гміны выбіралі сабе другога, а цяпер у „найдэмакратычнейшай дзяржаве“ войт выбіраецца кімсь бяз ведама самога demos'а (народу). Гэтак і ў нашу гміну прысланы новы войт па прэзьвішчу Чулей ці Чалей (чалеем у нас завецца вол), родам няведама скуль.

Гэты новы гаспадар гміны, прыняўшы ўсе гмінныя справы, перш-на-перш узяўся шчыра за спагон залеглых падаткаў. Працу ў гэтым кірунку распачаў з таго, што сам асабіста стаў аб'яжджаць вёскі нашай гміны і ўсемагутнымі прыказамі і пагрозамі застрашаць неакуратных па выплаце падаткаў гаспадароў.

З гэтаю мэтаю „новапамазаны“ войт заглянуў 16./XII. у в. С... дзе, сабраўшы сход, аб'явіў, што, калі сяляне з добрай волі не заплацяць падаткаў да 31 сьнежня с. г., дык ён прышле паліцыю зьбіраць „нядоімкі“, а як і паліцыя не здалее нічога зрабіць, дык на помач ёй прыйдзе войска, якое, паводле слоў войта, забярэ за падаткі і апошняга каня, ці карову. А калі адзін з сялян сказаў, што няхай пан войт возьме раней падаткі ў Міхалоўскіх (два браты абшарнікі ў нашай гміне), дык грозны начальнік усяе гміны адказаў: „milcz“, і дабавіў, што „takie rzeczy tylko można w Moskwie mówić“.

Цяпер нашы сяляне, напалоханыя такімі пагрозамі, чакаюць Новага Году, а там і новых бед, абяцаных новым войтам, „выбраным“ па новаму „дэмакратычнаму“ праву.

**А. Блажук.**

### „Тайны падатак“.

(Вёска Жухавічы, Нясьвіжскага пав.).

Стогнучы пад цяжарам нязьлічаных падаткаў, нашы сяляне не зьвяртаюць увагі на „тайны падатак“ млынавы, які бярэцца з іх найчасьцей і вырывае з іх вуснаў куды большы кусок хлеба, чым падатак гмінны, дарожны ці іншы.

Дзякуючы прыхільнасьці да свае кішані бяз дна, спаганяецца гэты падатак у нас панам С. зусім у далікатны спосаб. Без наказаў платнічых прывозяць сяляне і самі даюць, дык чаму ж ня браць? А бярэ пан С. нат трохі па закону, бо важыць на кілё (на якіх сяляне ня знаюцца) ды яшчэ „па хрысьціянску“, каб правая рука ня ведала, што робіць левая, махнець левай на ўсей бязьмен на дабаўку, на ўсіх пацукоў і жонцы на „панскі“ мэтравы капялюх, ды яшчэ й кажа: „Сып—сабе намалоціш“.

А селянін бедны сыпле дый сыпле, паглядаючы на свой мяшок, што ў ім мала засталося, і наракае на збожжа, што ўрадзілася гэткае лёгкае, а тут бяда зусім другая:

Трэба на „кілы“ прыглядацца,
З „кантролямі“ за чуб брацца,
А як затрашчыць чупрына,
Тагды пайме ён, скаціна,—
Хто ён сам? з якога роду,
Што патрэбна Вам на згоду:
Каб ён кінуў ашуканства,
Шануючы сваё „панства“.

**Васілёк Жухаўцоў.**

---

## З Радавае Беларусі.

### Праверка веданьня беларускае мовы.

Па ўсіх акругах Радавае Беларусі адбываецца праверка веданьня беларускае мовы працаўнікамі радавых акруговых установаў.

Адначасна распачата такая-ж праверка ў народным камісарыяце земляробства і адбудзецца ў нар. кам. прасьветы.

### На шляху да агульнага навучаньня.

Народны камісарыят прасьветы вядзе абсьледаваньне палажэньня школьнае справы ўва ўсіх раёнах, маючы на мэце выпрацаваць раённыя пляны агульнага навучаньня.

### „Дыялекты ўсходніх паветаў Гомельшчыны“.

У апошнія дні прыезду ў Менск вядомага дасьледчыка беларускае мовы праф. П. Растаргуева, які адразу-ж абяцаў выступіць у Інбелкульце з дакладам: „Дыялекты ўсходніх паветаў Гомельскае губ. ў іх сучасным стане“.

Рэдактар-Выдавец: Ян Марціневскі.

Друкарня Н. Левін і Сын, Вільня, Нямецкая 22.